ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 47 (1749) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 19 ЛІСТАПАДА 1989 г. Цана 150 зл.



## Твае песні будуць бальзамам

Калі ў 1981 годзе ў нашай рэдакцыі неспадзявана паявіўся высокі 23-гадовы хлапец з Амерыкі і хтосьці з лепш паінфармаваных сказаў нам, што гэта Данчык — беларускі спявак з Нью-Йорка, мы ўсе мігам абступілі яго. Тады ж высветлілася, што сапраўды ён завецца Багдан Андрусішын, а Данчык, тлумачыў ён мне пазней, таму што так называла яго ў дзяцінстве бабуля. Багданчык, Данчык...

Тады бабуля, пэўна, і не падазравала нават, што будзе гэта мастацкі псеўданім яе любімага ўнука, а беларуская песня стане яго пасіяй.

У Данчыкавай хаце нельга было не вырасці беларусам, хаця бацька быў украінцам. Аж тры жанчыны ў гэтай сям'і гаварылі па-беларуску: прабабуля Эмілія Шабуня, з дому Луцкевіч, родная сястра братоў Івана

(Працяг на стар. 6)

### ЯК ПАДПІСАЦЦА НА „НІВУ“

Ці можна будзе падпісацца на газеты на 1990 г.? — гэтае пытанне трывожыла многіх чытачоў, якія дагэтуль карысталіся такой формай паштовай паслугі. Пошта адмаўлялася ад падпіскі, бо ім гэта не аплочваецца і толькі клопат для пісьманосцаў. Выдаўцы хочуць працягваць такую форму распаўсюджвання прэсы, бо такім спосабам даходзіць яна да ўсіх закуткаў нашай краіны. Пасля доўгіх і цяжкіх перагавораў было нядаўна падпісана пагадненне паміж РСВ „Прэса-Кніжка-Рух“ і поштай адносна падпіскі на 1990 год. Пошта згадзілася прымаць падпіску толькі ад жыхароў вёсак, пасёлкаў і тых гарадоў, дзе няма аддзелаў РСВ, а таксама ад інвалідаў, незалежна ад месца іх пражывання. Гэтая група людзей можа падпісацца на газеты і часопісы, якія выдаюцца РСВ, і імпартаваныя з сацыялістычных краін. Падпісацца можна на пошце або ў пісьманосцаў. Кошт падпіскі складаецца з дзвюх частак. Першая — гэта падпісная цана газеты, пададзеная ў „Інфарматары аб цэнах польскай прэсы ў падпісцы“, які знаходзіцца на ўсіх поштах і ў пісьманосцаў. Другая частка — гэта кошт паштовай паслугі за пастаўку газеты дахаты, якую аплочвае падпісчык. Устаноўлена, што будзе ён роўны кошту самай лёгкай паштовай пасылкі. У I квартале 1990 года пастаўка аднаго экземпляра будзе каштаваць 100 злотых. **Падпіску пошта прымае толькі на квартальныя перыяды,** а ў выпадку штодзённай прэсы — на месяц або квартал. **Тэрмін падпіскі на I квартал 1990 г. канчаецца 20 лістапада 1989 г. У** такіх умовах **падпіска „Нівы“ на I квартал 1990 г. будзе каштаваць 3150 зл.** (1950 зл. — цана „Нівы“ і 1200 зл. — за пастаўку газеты ў хату падпісчыка).

„Ніву“ можна выпісаць таксама сваім знаёмым за граніцай. Тады кошт падпіскі павялічваецца на 100%. Падпіску на заграніцу прымае Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw w Warszawie, ul. Towarowa 28, Nr konta PBK, 13 Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

А што рабіць жыхарам гарадоў, ад якіх пошта не прымае падпіскі? Раім тады карыстацца формамі распаўсюджвання прэсы, арганізаванымі РСВ. Індывідуальныя чытачы могуць падпісацца на месцы работы, а РСВ за гэта не будзе браць ніякіх дадатковых аплат. Можна ў любым кіёску аформіць так званую „тэчку“ або падпісацца ў аддзеле РСВ і прэсу забіраць у спецыяльна вызначаных кіёсках. Апрача сваіх кіёскаў РСВ будзе арганізоўваць продаж газет у іншых гандлёвых установах, на прадпрыемствах і ў школах.

Рэдакцыя

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## ПРА ПАСЯДЖЭННЕ ГАЛОЎНАЙ РАДЫ БАСа

14 кастрычніка 1989 г. адбылося першае пасля канікул пасяджэнне Галоўнай рады БАСа. Трэба было падвесці вынікі нашай, амаль гадавой, працы, задумацца над тым, як у будучыні пазбегчы няўдач. Каб высветліць нашы праблемы шырэйшаму кругу чытачоў, прапануем кароткі агляд нашых няўдач і поспехаў у мінулым годзе.

Пакуль што не ўдалося нам аформіць эмблемаў, значкоў, не існуе яшчэ і архіў, а таксама не дзейнічае студэнцкае радыё, не выдаюцца двухмоўныя часопісы. Амаль зусім няма кантактаў з польскім асяроддзем. Далей няма памяшкання для БАСа ў Варшаве, кепска развязана справа кантактаў, інфармацыяў паміж гарадамі, а нат між членамі БАСа ў паасобных гуртках. Непакоіць таксама дзейнасць танцавальнага гуртка. Ёсць некалькі асоб, якія займаюцца пастаянна, астатнія прыходзяць і зараз жа адыходзяць. У такой сітуацыі цяжка гаварыць пра існаванне і будучыню калектыву, пакуль не знойдуцца адказныя людзі. Таму ўсіх ахвотных танцаваць запрашаем кожны аўторак а 18$^{00}$ гадзіне ў ГП БГКТ.

На працягу некалькіх месяцаў супольнай працы ўдалося здзейсніць некаторыя нашыя планы. Існуюць гурткі БАСа ў Беластоку, Варшаве, Гданьску, Любліне і Ольштыне. Наладзілася супрацоўніцтва з беларускімі ліцэямі, а таксама з беларусамі з Амерыкі і Савецкага Саюза. Вельмі істотнай справай з'яўляецца для нас дазвол Уладыкі Савы на багаслужбы на беларускай мове ў царкве Марыі Магдаліны. Прабуем таксама шырэй супрацоўнічаць з Брацтвам праваслаўнай моладзі. Ажыццяўляецца справа „хаты"-сядзібы БАСа ў Новай Луцэ. Афармілі ўжо банкавы рахунак (**NBP X Oddział W-wa 1603-550130-132**), хочам яшчэ аформіць рахунак валютны. Наша дзейнасць праяўлялася таксама ў форме атрасін, запустаў, рэйдаў, Купалля, вогнішча на Грабарцы ў час паломніцтва моладзі на Святую Гару. На конкурсе беларускай песні была ўзнагарода ад БАСа, першы раз афіцыяльна адзначылі гадавіну 25 сакавіка. Цэлы мінулы год працаваў Беларускі народны універсітэт.

А вось нашыя прапановы на найбліжэйшую будучыню:

10.XI.1989 — атрасіны ў Варшаве

17.XI.1989 — атрасіны ў Беластоку

24.XI.1989 — Свята беларускай моладзі ў Бельску, сустрэча ліцэі — БАС

25.XI.1989 — атрасіны ў Ольштыне

2—3.XII.1989 — Старое Беразова, Гайнаўка — рэйд студэнтаў і вучняў у гадавіну разгрому Грамады

16.XII.1989 — II З'езд БАСа.

Беларускі народны універсітэт: заняткі пачаліся 25 кастрычніка дакладам Сакрата Яновіча пра сучасную беларускую літаратуру. Чарговыя заняткі 22 лістапада. Кожную нядзелю а 9$^{00}$ праводзяцца ў царкве Марыі Магдаліны багаслужбы на беларускай мове.

Дакладныя інфармацыі пра дзейнасць БАСа можна атрымаць у Беластоку, вул. Варшаўская 11, тэл. 317-18 у кожны аўторак у гадзінах 17$^{00}$—20$^{00}$.

### ПРА СУСТРЭЧУ З УЛАДЫКАМ САВАМ

25 кастрычніка 1989 г. прадстаўнікі БАСа сустрэліся з Уладыкам Савам, Архіепіскапам Беластоцкім і Гданьскім. Студэнты ўпершыню мелі нагоду пагаварыць пра нашы супольныя праблемы і супольна пашукаць выхад з цяжкай сітуацыі ў нашым асяроддзі.

Хочам у гэтым месцы вельмі сардэчна падзякаваць Уладыку Саву за цёплы прыём, благаслаўленне і зразуменне нашых спраў.

Шчырае беларускае дзякуй!

Студэнты

### ПРА БУДУЧЫНЮ „ПРЫСУТНАСЦІ"

У апошні час паявіліся цяжкасці з рэгулярнасцю „Прысутнасці". Каб пазбегчы такога ў будучыні мы, БАСаўцы, вырашылі заняцца сур'ёзна яе рэдагаваннем. Перш за ўсё будзем змяшчаць на ёй інфармацыі пра жыццё беларускіх студэнтаў. Чытачы змогуць таксама глыбей пазнаёміцца з нашай арганізацыяй, атрымаць лепшае ўяўленне пра ладжаныя намі мерапрыемствы, пра нашы дасягненні і няўдачы (якіх, каб не было). Галоўная Рада БАСа даручыла займацца „Прысутнасцю" Барбары Кучынскай. Рысы характару Басі, перш за ўсё адказнасць, з'яўляюцца найлепшай зарукай добрага ўзроўню і рэгулярнасці. Жадаем ёй поспехаў, а ўсіх ахвотных запрашаем да супрацоўніцтва.

Ад імя людзей, якія праз тры гады лепш ці горш займаліся „Прысутнасцю",

Мікола Ваўранюк



**Усіх, хто яшчэ не ведае, інфармуем, што старшыня БАСа Яўген Вапа ажаніўся з Крысяй Андрэюк. З гэтай нагоды яшчэ раз складаем шчырыя пажаданні на будучае супольнае жыццё. Перад усім многа БАСікаў!**

**Сябры**

### ПРА СПЕЎНІКІ БЕЛАРУСКІХ ПЕСЕНЬ

Нікога, здаецца, не трэба пераконваць, якую важную ролю выконвае песня ў жыцці чалавека. Для нас, беларусаў, з'яўляецца яна інтэгруючым фактарам. Родная песня гэта сіла, якая можа за сабой павесці тысячы, якая адчыняе сэрцы і душы людзей, нікога не пакідае абыякавым. Хаця ніхто ніколі не аспрэчваў значэння роднай песні, аднак практычна магчымасці папулярызавання яе былі ў нас амаль роўныя нулю. Усяго паўгадзінная радыёперадача раз у тыдзень, ды штогадовыя агляды беларускай песні, ну яшчэ зрэдчасу канцэрты самадзейнікаў у паасобных мясцовасцях. І ўсё. Ні плёнак, ні спеўнікаў. Словам,вялікі рынак без тавараў. І вось сёлета на гэтым рынку паявіліся дзве невялікія кніжачкі-спеўнікі, якія, вядома, не задаволяць усіх патрэб, але шмат каму наблізяць родную песню.




Яшчэ вясною быў выдадзены, у жоўтых вокладках, спеўнік „Гарыць вогнішча", песні да якога выбрала і апрацавала Эля Бэзюк. Затым улетку з'явіўся БАСаўскі спеўнік „Беларусь мая".

Вельмі важнае, што спеўнікі гэтыя шмат у чым дапаўняюцца. Спеўнік „Гарыць вогнішча" Элі Бэзюк больш аб'ёмісты. Без нотаў, затое пры песнях пададзены функцыі для гітары. Песні тэматычна падзеленыя. Ёсць песні патрыятычныя, фальклорныя, на словы класікаў і маладых паэтаў. Такія, якія можна співаць падчас патрыятычнага свята і каля вогнішча. Шмат песень невядомая шырэйшаму кругу.

Спеўнік „Беларусь мая" быццам больш акуратны, з нотамі. Тэматыка песень таксама розная. Аднак ранг спеўніка паніжае неаднародны правапіс, з-за чаго і паявіліся памылкі. Складальнікі, проста, прытрымліваліся правапісу, якім карысталіся выдаўцы. Калі гэта было савецкае выданне — правапіс савецкі, калі эміграцыйнае — тарашкевічаўскі. Нягледзячы аднак на дробныя памылкі, трэба сказаць, што спеўнік цікавы, карысны.

Заахвочваем усіх купляць абодва спеўнікі, хаця з Эліным могуць быць цяжкасці, бо ягоны тыраж невялікі.

Пытайцеся ў сяброў БАСа.

## АДГАЛОСКІ

### ДАГРЫЗЦІ АЎРОРЫ!

Нейкі А. В. прыслаў ліст у „Ніву“. Хаця свайму тэксту даў загаловак „А дзе ж адказнасць за словы?“, сам прозвішча не падаў, хаця можна хутка дадумацца, хто ён, чытаючы гэты тэкст.

Праўда, няхай будзе плюралізм і разнастайнасць поглядаў, але няхай чалавек не сароміцца сваіх думак, тым больш, калі публічную асобу (якой ёсць карэспандэнт „Нівы“) аблівае памыямі і гаворыць няпраўду, а яшчэ якім тонам!

Колькі было артыкулаў, інфармацый і замалёвак Аўроры ў „Ніве“ — не было ў іх ні грама злосці і нецярплівасці да іншых людзей. Аўрора не „шукае з маньякальным упорам, каб каму далажыць“. Як рэдка які карэспандэнт, бачыць многа і глыбока, а яе тэксты, якія часта кранаюць вельмі ўражлівыя справы, насычаны любоўю да чалавека, спачуваннем, разуменнем чалавечай маласці, бездапаможнасці і нядолі. Ці заўважылі вы, пане А. В., што Аўрора пазбягае сваіх каментарыяў? Не „аблівае брудам“, не бічуе, не кляймуе. Прадстаўляе факты і сітуацыі, таму людзі вераць Аўроры і чакаюць яе тэкстаў. Усе людзі, якія выступаюць у яе замалёўках, існуюць сапраўды ці жылі раней; многія з іх мне таксама вядомыя. Людзі не таму чытаюць Аўрору, каб яхідна пасмяяцца і пацешыцца чужой нядоляй ці забавіцца сенсацыяй. Чытачы перажываюць жыццё такіх самых, як яны, людзей — герояў замалёвак, ні горшых — ні лепшых, спачуваюць ім, ацэньваюць іх. Ведаюць, што гэта праўда, а не нейкая „літаратура“...

Аўрора ні разу нічога дрэннага не напісала аб сваім ліцэі, а гаварыла аб ім заўсёды добра. Я ў ім (Гайнаўскі белліцэй) не вучылася, а толькі месяц вяла ўрокі польскай мовы на практыцы ў доктара Петручука, тады якраз, калі Аўрора, Ірына Салавей, была ў чацвёртым класе. Спадабаліся мне вучні, атмасфера ў школе і ў настаўніцкім пакоі (у якім я, праўду кажучы, амаль не чула беларускай мовы). Аўрора вучылася нядрэнна (нават вельмі добра) з гуманітарных прадметаў, як я сама бачыла ў дзённіку. Ірына была прынята ў школу за першым падыходам, не паўтарала класаў і здала атэстат сталасці — гэта толькі заслуга школы, як заўважыў А. В., бо каб настаўнікі захацелі, то маглі б лёгка ўсім сваім здольным і неканвенцыянальным вучням даказаць, што яны для іх — нулі, якія невядома чаго непакояць шаноўных настаўнікаў, што бяруць зарплату за асвету, і якія ў вачах сваіх выхаванкаў маюць быць заўсёды святымі.

Любімы настаўнік, калі траціць арэол аўтарытэта — найбольшая горыч для выхаванка.

Няхай А. В. не непакоіцца справамі Аўроры! Яна, калі крытыкавала, то ў канкрэтных інтэрвенцыйных справах. У СКРах, крамах і гміне бачыць не толькі дрэннае, а ўмее добрых пахваліць (глядзі — інтэрв'ю з кіраўнічкай ПУМ у Семяноўцы). Адзін з герояў замалёвак быў трохі злосны (сам гэта Аўроры сказаў), але заўвагі прыняў да сэрца. На тое ж і трэба пісаць — каб чалавек узяў для сябе нешта ў сэрца, у голаў і душу. І адвага тут патрэбная немалая!

**Міра Лукша**

### ПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ!

Артыкулы Аўроры, што друкуюцца ў „Ніве“, чытаю здаўна. Характэрны ім уражлівасць, назіральнасць і глыбокае веданне жыцця. Даволі я здзівілася, калі з інтэрв'ю даведалася, што гэта вельмі маладая асоба.

У апісваемых ёю пакручастасцях людской долі ніколі не бачу ні зласлівасці, ні іроніі, а толькі адно спачуванне. А крытыка дзейнасці ўстаноў, аб якіх успамінаецца ў лісце („Ніва“ № 42), сведчыць толькі аб яе адвазе і неабыякавасці да адмоўных з'яў, што дзеюцца ў нашым жыцці, а аб чым усе дасканала ведаем.

Шаноўны прафесар, добра Вы навучылі Аўрору беларускай мове, прыгожа піша, і можаце ёю толькі ганарыцца.

Што тычыцца тэлевізійнага рэпартажа аб беларусах з Гайнаўкі, то я раздзяляю адчуванні Аўроры. Адсутнасць свабоды ў некаторых выказваннях, збянтэжанасць, калі ішла гаворка пра мешаныя сем'і, паказвала на тое, што яны адсякаюцца ад беларускасці. Відавочна, глыбока ў нас сядзіць яшчэ „мужыцкая пакора“ ў адносінах да вялікіх.

**Марыя Іванюк, Ломжа**

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Беласток. Вул. Англійская. Малюнак У. Петрука.*

## СЯБРЫНА

# А ЧАМУ ЛЮДЗІ ВУЧАЦЦА..?

**Размова з Маркам Русіцкім**

**Міра:** Ты беларускую мову пачуў упершыню тут, у мяне, калі мы гутарылі от „так сабе“ — я, Бажэна, Ёля, Пеця...



**Марэк:** Частка маёй сям'і, напэўна, умее гаварыць па-беларуску. Мой бацька быў палякам. Мама выхоўвалася ў Гданьску, але разумее беларускую мову. На тэму беларускасці ніколі нічога не гаварыла, не аказалася беларускім словам, але галасавала на беларускіх кандыдатаў у Сейм і Сенат.

**Міра:** Ты прыходзіш, адразу ўключаеш беларускія песні, напяваеш (усё лепш), амаль не прымушаеш усіх, каб гаварылі толькі па-беларуску. Ходзіш на канцэрты, быў на рэйдзе ў Мастаўлянах, у Супраслі...

**Марэк:** Пані Орса-Рамана сказала, што я там быў адзіным, які не ўмеў гаварыць па-беларуску, і мне было сорамна. Але там было больш такіх, хто не ўмеў, але яны трымаліся ў сваёй кампаніі. Я сустрэў там дзяўчат са сваёй пачатковай школы, аб якіх і не падумаў бы, што іх там сустрэну.

**Міра:** Усе заўважылі, што ты х о ч а ш гаварыць па-беларуску, што ўсё цябе цікавіць...

**Марэк:** Пацешыў мяне Алег Латышонак, які навучыўся добра гаварыць па-беларуску ў 22 гады. А мне яшчэ толькі 19!

**Міра:** Працуеш рабочым, вучышся ў вячэрнім ліцэі, цікавішся Бібліяй...

**Марэк:** Бацькі не накіроўвалі майго зацікаўлення на Святое Пісанне. Тата мой быў каталікам, памёр 13 год таму назад. Мама праваслаўная, у царкву ходзіць. У пазнанні Бібліі дапамаглі мне сведкі Яговы. А чаму я яшчэ вучуся, кваліфікаваны рабочы, у ліцэі? А чаму людзі вучацца? Некаторыя, каб цяжка не працаваць, іншыя...

**Міра:** У тваім пакойчыку — мноства кніжак дасканалых аўтараў, твораў, якія не заўсёды папулярныя сярод „сярэдняга“ чытача. Падрамнікі, пэндзлі... Паліцы ты зрабіў сам... Зацікаўленні даволі рэдкія сярод рабочых.

**Марэк:** Крыху цікаўлюся літаратурай.

**Міра:** Ты другі з маіх знаёмых, пасля Бажэнкі Бурачэўскай, які найбольш непакоіць людзей пытаннем аб іх беларускасці і дакорам: „Які з цябе беларус, калі не ведаеш роднай мовы?!“ Ты выхоўваўся ў асяроддзі, у якім ніколі не прагучалі сказы: „Я хачу навучыцца па-беларуску“ ці „Беларуская мова мне вельмі падабаецца“, таму што на гэтую тэму ніхто не гаварыў. Цяпер цябе здзіўляе, што знаёмыя табе адказваюць: „Няма чым хваліцца“ ці „Ці ты нармальны?!“ Не ведаю, чаму цябе гэта здзіўляе. Каб быць беларусам, трэба быць тры разы беларусам; каб быць сабою — ненармальным.

**Марэк:** Не бачу ў гэтым ніякай ненармальнасці. Няхай гавораць.

**Міра:** Праўда, людзі, такія як Сведкі Яговы, ужо прывыклі, што і на іх глядзяць як на нешта дзіўнае, якое адважылася вылучыцца з асяроддзя поглядамі, паводзінамі і стойкасцю. Каб

(Працяг на стар. 7).



*Басаўцы на канцэрт Данчыка прыйшлі са сцягамі.*

Заса то замірала тады, калі сваім далікатным голасам Данчык выспяваў надзвычай лірычныя „Зорачкі“ на словы і музыку Сяргея Новіка-Пяюна, а ў якія Данчык уклаў усю душу, бо яны як бы адлюстроўвалі і яго тугу па родным краі, то спявала разам з Данчыкам у жартоўнай вясёлай песні „Хлопец пашаньку пахае“, а ў выпадку песні „Я адной табе належу“ гэта быў суцэльны магутны хор. „Дагэтуль, — сказаў Данчык, — я думаў, што ў Беларусі няма вясёлых песень, і заўсёды спяваў амаль выключна сумныя песні. У Валілах, у Лёнікавай хаце, я сустрэўся з моладдзю і навучыўся ад іх многа вясёлых песень. Буду цяпер іх спяваць!“

На спомненым канцэрце Данчык спрабаваў упершыню заспяваць песню „Туманы“ на словы Сяржука Сокалава-Воюша. Заспяваў таксама па адной песні ўкраінскай, французскай, англійскай, нямецкай і іспанскай.

Для многіх канцэрт Данчыка быў шокам. Людзі не хавалі сваіх слёз. Апладзіравалі стоячы. Прыйшла моладзь з бел-чырвона-белымі сцягамі. Былі таксама запрошаны духоўныя на чале з архіепіскапам Беластоцкім і Гданьскім Савам. І яны спявалі разам з усімі. Недзе пасля дзіця — і Данчык сыкнуў яму праз мікрафон.

Малады спявак даў два канцэрты ў Беластоцкай філармоніі і адзін у Гайнаўцы. Спяваў таксама ў Варшаве. Сустрэўся ў ГП БГКТ з членамі літаратурнага аб'яднання „Белавежа“. Шмат расказваў там пра свае ўражанні аб Беларусі і праспяваў таксама пару песень. Наведаў ваколіцы Беластока: Супрасль, Крынкі, Валілы. Хацеў убачыць як мага больш, але і сябе не шкадаваў.

— Як адчувае сябе мама „зоркі“? — нясмела спытала я ў Юліі Андрусішынай, якая верна спадарожнічала сыну ва ўсіх канцэртах і спатканнях.

— Добра! — яна паківала сцвярджальна галавой і абдарыла нас сваёй таямнічай усмешкай.

Пэўна, сёння, калі выходзіць гэты нумар, Данчык ужо спявае ў Нью-Йорку, у Лінкольн-цэнтры, на фестывалі славянскіх культур. Як заўсёды, спявае пра Беларусь, сваю Айчыну.

Спявай, Данчык, вясёлыя песні, бо і навучыўся ты, і часы змяніліся! Але спявай і песні сумныя, не саромся іх! Яны ў тваім выкананні — найбольшы скарб, вяршыня мастацкага кунштý. І не саромся слёз. Яны ў цябе шчырыя і праўдзівыя, як твая маці Беларусь. Яны — твае і нашы, супольныя.

Спявай і вер глыбока, што таму, у каго сэрца ацiхне ды прытупіцца боль па родным, ачарсвее душа і ўсё навокал стане шэрым і абыякавым, твае песні будуць бальзамам... І вернуць яму любоў і слёзы. Вернуць Беларусь.

**Ада Чачуга**

**Фота Сяргея Грыняўіцкага і Яна Максімюка**



*„Парнас“ уручае Данчыку падарунак.*

(Працяг са стар. 4)

## СЯБРЫНА

быць сабой, патрэбная адвага. І добра мець падтрымку „сваіх людзей“ — падобных на цябе.

**Марэк:** Я заўважыў розніцу ў працы прапаведнікаў Сведкаў Яговы сярод беларусаў. Чужых людзей называеш „цёцяй“ ці „дзядзькам“, яны з пакорай і роздумам прымаюць Святое Пісанне.

**Міра:** Гаварыў мне адзін адвентыст („суботнік“): „У беларускіх вёсках адчуваеш сябе як у роднай сям'і, сярод добрых, набожных, добразычлівых людзей. Калі нават не цікавіць іх гэтая тэма ці ў іх іншыя погляды, то іх адказ не абразіць чалавека, які да іх прыйшоў“.

**Марэк:** Пэўна, такая прырода беларусаў, якія шануюць іншых.

**Міра:** Думаю, што гэта не палчуццё горшасці, як некаторыя хочуць даказаць, а шчырая адкрытасць і дабрата людзей, якіх глумілі, прыгняталі і не давалі выказацца, а ўсё-такі не забілі ў іх надзеі, даверу і веры ў чыстыя рукі і сэрцы, праўду і справядлівасць.

**Гутарыла Міра Лукша**

## ЮБІЛЕЙ І РАЗВІТАННЕ



**2 ліпеня г.г. у Сямяцічах адбылася прыўзнятая царкоўная ўрачыстасць. Пасля адслужэння святой літургіі духавенства і прыхаджане адзначалі юбілей 45-годдзя працы псаломшчыка Пятра Кузьмюка, рэгента царкоўнага хору ў Сямяцічах, і адначасова развіталіся з ім у сувязі з яго адыходам на пенсію. Настаяцель прыхода а. Андрэй Якімюк ад імя ўсяго сямяціцкага праваслаўнага духавенства падзякаваў за шматгадовую адданую працу і ўручыў букет цудоўных кветак. Многа пажаданняў і кветак атрымаў юбіляр ад харыстаў і прыхаджан, а ў многіх у вачах круціліся слёзы, аднак не горкія, а слёзы радасці.**

**Айцец Пётр Кузьмюк нарадзіўся ў 1920 годзе ў вёсцы Чорная-Царкоўная і там закончыў чатыры класы школы. Далей вучыўся ў Вільні, дзе і закончыў духоўную семінарыю. У 1937 годзе пераехаў у Яблачына, дзе два гады пазнаваў тайны дырыжыравання. У Сямяцічах апынуўся ў 1944 годзе, там стаў псаломшчыкам і пэўны час кіраваў царкоўным хорам. І хаця адышоў на пенсію, абяцаў не парываць кантактаў з хорам, а супрацоўнічаць з ім у далейшым, бо, як сам сказаў, праца — гэта яго „душэўны хлеб“.**

**Прыўзняты настрой юбілейнага святкавання натхніў мяне напісаць верш, які а. Пятру Кузьмюку прысвячаю:**

**Сорак пяць гадоў прайшло як сон,**
**Сорак пяць гадоў рука яго**
**дырыжыравала.**
**Чалавек Пётр завецца ён,**
**Кроў-муза**
**Кружыць у яго жылах.**
**Сорак пяць гадоў ён не адыходзіў**
**І нішто не звяло яго на іншую**
**дарогу.**
**Літасцівы ён прыходзіў**
**У царкву спяваць**
**Людзям і Богу**

**Язэп Карпюк**

(Працяг са стар. 2)

## ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ТРАДЫЦЫІ

паяснення. Сказанае Буракоўскай данояўў д-р З. Кладніцкі з Вроцлава, які прадставіў рыбалоўныя традыцыі на польска-беларускім культурным сумежжы. Рыбалоўля ж цесна звязана з водным транспартам.

І як бы трэцім тэматычна напрамкам гэтай сесіі было пытанне народных мастацкіх вырабаў. Адносілася гэта перш за ўсё да керамікі, аб якой гаварыў д-р Мілючэнкаў з Мінска, і тканіны, на тэму якой выступілі з дакладамі д-р А. Блахоўскі з Торуня і д-р Э. Фрысь-Петрашкова з Кракава.

Разнатыпнасць праблем, сур'ёзны падыход да тэмы, глыбіня яе распрацоўкі далі дасканалы прыклад і ўзор для інтэрпрэтацыі народнай творчасці і быту. Сутыкнулася дзве школы — польская і савецкая, у выніку чаго паўстаў цікавы і багаты вобраз польска-беларускага культурнага сумежжа ў этнаграфічным аспекце.

**М. Сакоўскі**

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Алёнка — добрая маміна памочніца. Фота С. Чурака.

## Вершы Віктара Шведа

### СЯМЕЙНЫЯ СКАРБЫ

Звяртаецца малая Уля
Да свайго брата Мікалая:
— Нашы бацькі даюць бабулі
Найдаражэйшае, што маюць.

— А што ж такое дарагое
Ты раптам вынайшла аднекуль?
— Дык гэта ж нас, мяне з табою,
Даюць заўсёды пад апеку.

### ГУЛІ, ГУЛІ

Вельмі просіць тату Ваня:
— Зрабі хатняе заданне.
А я, татка, у міжчасе
Пагуляю з сябрам Васем.
— Калі будзеш ты цурацца
У жыцці навукі, працы,
Будуць, сынку, толькі гулі —
Астанешся без кашулі.

### ЛЕКАР ТАЦЕ МЕЛЕ КАВУ

Да ўрача зубнога Пеця
Прыйшоў з татам на хвіліну.
Тата Пеці ў кабінеце,
Забурчэла бормашына.
Пеця, седзячы ў прыёмнай,
Разглядаецца цікава,
Прыслухоўваецца скромна:
— Лекар таце меле каву.

### ЗА ПАЛЕЦ ЛЕКАРА ЎКУСІЛА

Прыйшла матуля з Оляй
Да лекара зубнога.
— Не плакала ад болю?
— Матулю, анічога.

— А чула ж я крык нейкі,
Нават з вялікай сілай.
— Дык гэта ж крыкнуў лекар.
За палец я ўкусіла.

### ПЛАЧА БАБУЛЯ ПА ЦЫБУЛІ

Маленькі ўнук убачыў;
Што добрая бабуля
Слязою горкай плача,
Рэжучы цыбулю.

Калі прыкмеціў Жэнька
На твары слёзы зноўку,
Сказаў: — Шкада старэнькай
Цыбулінай галоўкі.

## ЗАЛАТАЯ РАКАВІНКА



**Заканчэнне.**
**Пачатак у папярэдніх нумарах.**

Узмахнула Царыца рукой, і адразу, танцуючы лёгкі танец, з'явіліся на востраве прыгажуні феі. Ды ў сэрцы А Сіня жыла толькі адна-адзіная дзяўчына. Закрычаў ён Царыцы:

— Не патрэбны мне ні золата, ні каштоўныя камяні, не патрэбны мне прыгажуні ні зямныя, ні марскія. Патрэбна мне адна Залатая ракавінка — маладая ці старая!

Нахмурылася Царыца, узмахнула рукой, і ў той жа момант прыбеглі вартавыя-кракадзілы, схапілі А Сіня і прыкавалі жалезнымі ланцугамі да падводнага каменя. Шалёныя хвалі з лютасцю накінуліся на юнака. А Царыца сказала грозна:

— Не згаджаешся адпусціць Залатую ракавінку ў мора, не думай выйсці жывым адсюль!

Раз'юшаныя хвалі, нібы жалезныя бізуны, хвасталі А Сіня, злы ўраган, нібы тысячы вострых нажоў, рэзаў цела. Але бясстрашны юнак крычаў Царыцы:

— Бі мяне, рэж мяне, толькі не памяняю я Залатую ракавінку нават на крыштальны палац!

Як ні лютавалі хвалі, як ні білі, ні хвасталі яго, не згінаўся А Сінь перад імі. І здалася Царыца. Зноў узмахнула яна рукой, і ў той жа момант супакоіліся хвалі. А вартавыя вызвалілі А Сіня з ланцугоў і падвялі да Царыцы.

Падышла Царыца бліжэй да юнака, усміхнулася і сказала:

— Віншую цябе, ты перамог! Сваёй мужнасцю і вернасцю Залатой ракавінцы заваяваў ты яе любоў!

Падала Царыца яму жамчужыну, падарунак да вяселля. І ў адзін момант лёгкі, халаднаваты вецярок вынес А Сіня на паверхню мора.

Прыбег юнак дамоў. Як толькі асвяціла жамчужына дзяўчыну, што ляжала хворая, адразу стала яна такой прыгожай, якой і была. Паднялася яна, радасна ўсміхнулася, пайшла насустрач А Сіню, і святло шчасця, якое выпраменьвалі яе вочы, было ярчэйшым за святло жамчужыны ў руках юнака!

Неўзабаве згулялі яны простае, але слаўнае вяселле. З далёкіх краёў у гэты сціплы куток прыйшлі на вяселле рыбакі.

Яшчэ доўга ўспаміналі людзі прыгажосць маладых, іх шчасце.

А Сінь і Залатая ракавінка пражылі шчасліва восемдзесят гадоў, а потым пакінулі зямлю. Але да гэтага часу, калі на досвітку рыбакі закідваюць сеткі ў гэтых мясцінах Паўднёвага мора, часта яны чуюць, як ліецца над морам звонкая чыстая песня А Сіня.

**Пераклаў на беларускую мову**
**Міхась Пазнякоў**

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

**Уладзімір Бабкоў**

### БЕГЛА ЛІСКА

Бегла Ліска
Каля лесу блізка,
Рыжым кончыкам хваста
Дакранулася
куста... —
Запалалі
жоўтым
полымем
лісты,
Загарэліся суседнія кусты,
Непрыкметна ўвесь
Успыхнуў лес:
На паляне клён палае,
Гай бярозавы згарае...
І ніхто пажар не тушыць.
Нават вецер з лесу ўцёк —
Аб чырвоную рабіну
Моцна крылы ён апёк.

Толькі сосны ды яліны
Сняць зялёныя часіны:
Ім пажар не страшны гэты,
Бо вясной,
зімой
і летам
Сосны, елкі —
адным цветам.
Вось табе і Ліска —
Доўгі хвост паджары.
Нават хмарам нізкім
Не згасіць пажару...

**А. Паскробышаў**

### РЫЖЫК-ГАРЭЗНІК

Згубіла Люба рукавічку, а бабцы бяда. Шкада ёй унучку — намарозіць пальчыкі. Вось і спяшаецца бабуля звязаць ёй новую рукавічку. Пятлю за пятлёю нанізвае на пруток. Глядзіш, палова рукавічкі ўжо звязана. Ды тут пабегла на плітку малако.

Кінула бабуля недавязаную рукавічку, заспяшалася на кухню. Сіні клубочак упаў з крэсла на падлогу. А Рыжык, які грэўся ля бабчыных ног, толькі гэтага і чакаў. Як пачаў ён ганяць клубочак з кута ў кут, ад крэсла да крэсла, ад шафы да канапы. Ганяў-ганяў, пакуль не вырваўся клубочак з учэпістых лапак кацяняці і не схаваўся пад канапу.

Рыжык прытаіўся, чакаючы, ці не выкаціцца зноў вясёлы клубочак. Але не дачакаўся. Пабег на кухню, дзе так смачна пахла малаком. Аблізваецца Рыжык, трэцца каля бабулі; а тая злуецца:

— Пачакай, гарачае яшчэ, апячэшся. Астыне — тады і пачастую.

Вярнулася бабуля да крэсла, а на ім толькі недавязаная рукавічка, клубочка няма. Як у ваду кануў, нават хвосціка сіняга нідзе не пакінуў. Што ж рабіць? Замест адной прыйдзецца вязаць дзве рукавічкі, бо сініх нітак больш няма. Палезла бабуля

(Працяг на стар. 10)

# РАСПЛЮМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК „НІЎКІ“

**Дурнота** — музычны запіс.
**Душагрэйка** — палюбоўніца.
**Дыскатэка** — торба, сумка лёгкаатлета.
**Жаваранак** — доўгі сняданак.
**Жалеза** — плачлівасць.
**Жалейка** — плакса, шкадавальніца.
**Журналіст** — сумнае пісьмо.
**Завярбаваць** — схаваць за вярбой.
**Загграць** — араць за гарой.
**Зглыбіць** — уманіць.
**Загубы** — зубы.
**Задаваць** — уцякаць назад.
**Задрамаць** — заснуць у тэатры (падчас драмы).
**Задымець** — забяспечыць тыл.
**Зазубрыць** — завесці гадоўлю зуброў.
**Заморак** — эмігрант.
**Замучаны** — хлеб.
**Запарожжа** — панадворак.
**Запас** — жывот.
**Захопнік** — злодзей.

„ядань“

## СЕЛЯНІН ПАЙШОЎ У МАГАЗІН

Аднойчы селянін
Пайшоў у магазін.
Меў многа розных мар,
Што купіць тут тавар.
Апроч пустых паліц
І сонных прадаўшчыц,
Нічога не знайшоў.
Патупаў ён дамоў.

**Віктар Швед**

# АБ'ЯВЫ

**26 лістапада 1989 г. а 13⁰⁰ гадз. у Беластоцкай філармоніі адбудзецца супольны канцэрт Гайнаўскага беларускага хору і Народнага хору з Жырмон каля Воранава (БССР, Гродзенская вобласць).**

**Калі будуць жадаючыя, дык канцэрт будзе паўтораны ў той жа дзень, а 16⁰⁰ гадз.**

**Білеты можна купляць у БГКТ, вул. Варшаўская 11.**

# НІЎКА



## ПАЎТОРНАСЦЬ НЕПАЎТОРНАГА

592

Вывучаючы мінулае, навука прычыняецца да пазнання будучага.

593

Праца гэта перакоўванне пажаданага ў рэчаіснае.

594

Той, хто прагне ў жыцці спакою, не павінен узыходзіць на шлях навукі.

595

Калі хочаш вучыць іншых заўтра, мусіш у другіх вучыцца сёння.

596

У навуцы адна перамога аплачвае яго паражэнняў.

597

Аддаючыся ў палон навуцы, вучоныя вызваляюць іншых з палону.

598

Круглы стол быў вялікім крокам у напрамку грамадзянскіх свабод і яшчэ большым у бок гаспадарчай катастрофы.

599

Дурнота, якая паводзіць сябе як дурнота, менш небяспечная, чым дурнота, якая паводзіць сябе як геніяльнасць.

**Алесь Барскі**

## КАРАТЭ

**Чуткі пра тое, што кантралёр цагельнага завода Козін валодае прыёмамі каратэ, птушкай разнесліся па ўсім горадзе. Моладзь праявіла да Козіна выключную цікавасць. Пад націскам заўзятых прыхільнікаў каратэ феномен дэманстраваў сваё майстэрства ў гарадскім парку.**

**Козін стаў насупраць вялікага натоўпу і нетаропка, па-гаспадарску расклаўшы цагліны, потым прыцэльваўся і лёгкім рухам рукі наносіў удар.**

**На вачах здзіўленых гледачоў будаўнічы матэрыял імгненна губляў сваю строгую геаметрыю і ператвараўся ў палаўняк, над якім курылася воблачка пылу.**

**Козіну пляскалі ў далоні і выклікалі на „біс“.**

**Сціплы кантралёр з ахвотаю браў чарговую партыю цэглы, прывезеную на завадской тачцы, і зноў дэманстраваў свой феноменальны ўдар.**

**Калі Козін разбурыў апошнюю цэглу і з задавальненнем схаваў у кішэню сваю любімую правую руку, да яго падбег незнаёмы хлопчык.**

**— Дзядзечка! — закрычаў ён, працягваючы некалькі гліняных цаглінак. — Я вам яшчэ прынёс. Біце!**

**Козін радасна ўсміхнуўся, аднак, агледзеўшы цагліны спахмурнеў і, да вялікага расчаравання публікі, паўтарыць нумар адмовіўся.**

**— Няхай мяне таварышы выбачаюць, — сказаў ён, — толькі я з чужымі цаглінамі не працую. Мне мая правая рука яшчэ неаднойчы спатрэбіцца. А то яшчэ падсунуць прадукцыю, якая адпавядае стандарту, — тады бывай, каратэ!**

**Вячаслаў Гілевіч**
**(са зборніка „Крыштальная душа“)**

## У МАГАЗІНЕ

Не магазін, а нейкі рынак!
Так беспарадкі развялі!
Паслаў за пранікамі сына,
Вы кілаграм не дадалі!

Я сам іх важыў...
Што ж, магчыма,
Ёсць разыходжанні дзе-ніндзе.
Але вы ўзважце свайго сына
І ўсё да грама супадзе.

**Васіль Гедзька**

## ЗНАЙШОЎ ЧЫМ ХВАЛІЦЦА

Хваліўся конь: „Цяпер я
не гарую,
Нарэшце ўдасканалілі нам
збрую.
Аброці выглядаюць эстэтычна.
Кілзаюць нас ужо аўтаматычна“.

**Рыгор Родчанка**

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ОЙ, У ЛУЗЕ КАЛІНА СТАЯЛА

**(народная)**

Ой, у лузе каліна стаяла,*
Там каліну Галіна ламала.

— Ой, Галіна ліца румянога,
Ці ж ты любіш мяне маладога?

— Ой, я рада б цябе палюбіці,
Толькі баюсь вянок загубіці.

— Ой, не ўбіў я птушыны малое,
Не згублю я цябе маладое.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.




# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чарнякевіч (рэдактар „Зоркі“).


„Niwa“
ul. Wesołowskiego 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty pocztowej na 1990 r.:

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na I kwartał 1990 r. upływa 20 listopada 1989 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty na I kwartał 1990 r. wynosi 1950 zł + 1200 zł za doręczanie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28 Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

Mieszkańcy miast mogą zamawiać prenumeratę indywidualną poprzez Oddziały RSW w następujących formach:

- prenumerata instytucjonalna (w zakładach pracy),
- rezerwacja w tzw. teczkach (we wszystkich kioskach),
- prenumerata własna RSW (w wytypowanych kioskach).

Zam. 1610/89. Nakład 5.300. T-3